ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Жнівень 2014 - 1

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

## У НУМАРЫ:

- ТЭСТАМЕНТ (на ўсю маёмасць аднаму спадкаемцу і пазбаўленні спадчыны ўсіх спадкаемцаў па закону)

- ТЭСТАМЕНТ (на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам у роўных долях і пазбаўленнем іншага спадкаемцы спадчыны)

- ТЭСТАМЕНТ (на асобныя віды маёмасці, у тым ліку прадметы дамашняй абстаноўкі і ўжытку, аднаму спадкаемцу)



**ТЭСТАМЕНТ**

*(на ўсю маёмасць аднаму спадкаемцу
і пазбаўленні спадчыны ўсіх спадкаемцаў па закону)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

усю маёмасць, якая да дня маёй смерці будзе мне належыць, у чым бы яна не змяшчалася і дзе б яна не знаходзілася, я пакідаю ў спадчыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку.*

Усіх маіх спадкаемцаў па закону і іх нашчадкаў я спадчыны пазбаўляю.

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам у роўных долях і пазбаўленнем іншага спадкаемцы спадчыны)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

кватэру нумар ____ (____), што належыць мне па праву ўласнасці, што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, горадзе Мазыры, па вуліцы Купалы, у доме нумар ____ (_____), я пакідаю ў спадчыну сынам *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* і *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* у роўных долях кожнаму.

Маю дачку *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* я спадчыны пазбаўляю.

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на асобныя віды маёмасці,*
*у тым ліку прадметы дамашняй абстаноўкі і ўжытку,*
*аднаму спадкаемцу)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

зямельны надзел, што належыць мне па праву ўласнасці з размешчаным на ім жылым домам нумар ___ (____), што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, горадзе Мазыры, па вуліцы Купалы, кватэру нумар ____ (____), што знаходзіцца ў горадзе Гомелі, па вуліцы Багдановіча, у доме нумар ____ (____), і прадметы дамашняй абстаноўкі і ўжытку я пакідаю ў спадчыну майму сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*.



M&S MEDIA

Тэматычны неперыядычны дадатак
да газеты "Гомельскія Навінкі"
*"Справаводства па-Беларуску!"*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя
"Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.

**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA